Нядзеля
10 верасня 2006 г.
№ 9 (17)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

свой горад сваімі рукамі

# ПРАЎДА мастоўская

Если вы хотите получать наше издание в дальнейшем, пожалуйста, пришлите sms сообщение с указанием адреса, на который должна приходить **"Мастоўская праўда"** на номер :
**+ 370 677 29 646.**

## Праграма Кастуся Каліноўскага: дзе былі і што бачылі беларускія студэнты

**У ліпені-жніўні 2006 г. стыпендыянты, сярод якіх ёсць і пяцёра маладых людзей з Мастоў, інтэнсіўна вывучалі польскую і англійскую мовы, а таксама наведалі універсітэты ў Кракаве, Гданьску, Беластоку, Любліне і іншых гарадох.**

Скончыўся чарговы этап навучальнага працэсу студэнтаў праграмы Кастуся Каліноўскага адбылася экскурсія па буйнейшых гарадах Польшчы й унівэрсытэтах, дзе стыпэндыяты змогуць працягнуць навучаньне. Тры тыдні будучыя студэнты наведвалі найстарэйшыя мясьціны сваёй заходняй суседкі, сустракаліся з уплывовымі палітыкамі, рэктарамі ўнівэрсытэтаў, удзельнікамі гераічнага змаганьня за незалежнасьць і свабоду Польшчы.

Нагадаем, што праграма была створаная польскім урадам у дапамогу беларускім студэнтам, якія былі выключаныя з універсітэтаў Беларусі за сваю грамадзянскую пазыцыю. У ліпені-жніўні стыпендыянты, сярод якіх ёсць і пяцёра маладых людзей з Мастоў інтэнсіўна вывучалі польскую і англійскую мовы, а таксама наведалі універсітэты ў Кракаве, Гданьску, Беластоку, Любліне і іншых гарадох.

*Алесь Копаць*



## ПРАВИЛЬНОЙ ДОРОГОЙ ИДЕМ, ТОВАРИЩИ?

**Даже у многих рабочих вызывает смех и недоумение подход руководства ОАО "Мостовдрев" к организациям субботников, которые чаще всего происходят, когда приезжает с визитом начальство из Гродно и Минска, что бывает несколько раз в году. Тогда «контору» снова выгоняют на работу, которую в странах с развитой экономикой обычно поручают дворникам**

На ОАО «Мостовдрев» реализован принцип Ленина «кухарка может править страной». Только в обратном направлении.

Уже не раз работники заводоуправления доказывали, что могут работать не только головой, но и руками. Вот и недавно, руководство предприятия по-советски решило проблему недостатка рабочей силы в лесоцехе. Более полутора недель молодые парни-специалисты, которые работали в различных отделах заводоуправления, были отосланы тягать бревна. Видать, мало кто из мостовчан хочет работать в лесоцеху за зарплату, предлагаемую на предприятии. А работники заводоуправления могут, и не только в там. Даже у многих рабочих вызывает смех и недоумение подход руководства предприятия к организациям субботников, которые чаще всего происходят, когда приезжает с визитом начальство из Гродно и Минска, либо иностранные делегации, что бывает несколько раз в году. Тогда «контору» снова выгоняют на работу, которую в странах с развитой экономикой обычно поручают дворникам. У нас же, где уровень образования один из самых высоких в мире, поэтому роль дворников должны выполнять квалифицированные специалисты. Вот и 29 августа им пришлось поворочать доски, арматуру и кирпичи на очередном субботнике, облагораживая территорию возле новой миниТЭЦ. Результат такой дальновидной и продуманной политики руководства в организации работы на предприятии налицо: как недавно сообщили по Гродненскому радио, ОАО «Мостовдрев» занимает почетное второе место среди предприятий концерна "Беллесбумпром". Правда, с конца. Но что было бы, если был другой подход к организации труда. Опустились бы на последнее?

*Алеся Смольская*

## Апытанне МП

Падыходзіць да свайго завяршэння кадэнцыя Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў 24 склікання. Менш за паўтады засталося прадстаўляць інтарэсы выбарчыкаў сённяшнім дэпутатам. 2 сакавіка 2007 года паўнамоцтвы дзеючага райсавета заканчваюцца. У сувязі з гэтым мы вырашылі звярнуцца да жыхароў г.Масты з пытаннем:

**-Ці ведаеце вы свайго мясцовага дэпутата?**

**Міхаіл, 48 гадоў:**
-Дакладна не ведаю. Па мойму настаўніца нейкая.
**Кацярына, 58 гадоў:**
-Я на жаль палітыкай не цікаўлюся, таму і не ведаю.
**Вольга, 28 гадоў:**
-Па-мойму, адзін малады хлопец у нас дэпутат.
**Алена Фёдараўна, 64 г.:**
-Так ведаю, Яніна Дземянкова. Памагае нам. Ведаю яе добра.
**Алег, 19 гадоў:**
-Не я нічога не ведаю. Мяне гэта мала цікавіць.
**Марыя, 49 гадоў:**
-Пудаўкін наш дэпутат. Я сама з Лунна. І ён з Лунна. Добры чалавек. Актыўны надта.
**Павел, 38 гадоў:**
-А хто яго ведае. Па-мойму, Мандзік.
**Уладзімір Сяргеевіч, 58 гадоў:**
-Ведаю, ведаю. Саша Зарэмбюк наш дэпутат. Малады, актыўны, дапамагае нам.
**Валянціна, 27 гадоў:**
-Не помню я. Па-мойму, жанчына, урачом працуе.

**Падрыхтавала Таццяна Масюк**

# Дэпутацкі пратэст

**Дэпутат Бабруйскага гарсавета Аляксандр Чыгір прыкаваў сябе ланцугамі да слупа, пратэстуючы такім чынам супраць звальнення с працы за апазіцыйную дзейнасць.**

Нагадаем, што дэпутат Чыгір працаваў настаўнікам гісторыі ў адной з бабруйскіх школаў. У ліпені гэтага года ўпраўленне адукацыі бабруйскага гарвыканкама не працягнула з ім кантракт.

Паводле беларускга заканадаўства дэпутат не можа быць звольнены з працы без згоды на тое Савета дэпутатам якога ён з'яўляецца.

Падобная сітуацыя мела месца ў 2004-ым годзе з дэпутатам Мастоўскага райсавета Аляксандрам Зарэмбюком калі таго выключылі з ліку студэнтаў Гродзенскага ўніверсітэта незаконна. Пазбавілі магчымасці вучыцца толькі за тое што гэты малады чалавек неаднаразова адстойваў праўду ў Мастоўскім раённым Савеце дэпутатаў і спрабаваў дамагчыся вырашэння праблемаў сваіх выбарцаў.

*Уладзімер Шчэкарэвіч*



svaboda.org

*Никколо Макиавелли:*

**"Правитель, для которого все общество является врагом, не может чувствовать себя в безопасности; чем шире жестокость, тем слабее становится его режим".**

## адным абзацам

**У справаздачы Ўсясьветнага банку адзначаецца, што Беларусь – найгоршая краіна сьвету ў пытаньні падаткаабкладаньня бізнэсу.** Каб выканаць усе падатковыя законы, фірма ў Беларусі павінна заплаціць 186% падатку з прыбытку – іншымі словамі, аддаць дзяржаве ня толькі ўвесь прыбытак, але і амаль яшчэ столькі ж. На працягу году беларускае прадпрыемства павінна зрабіць 125 падатковых плацяжоў.

# «Мы будзем навучацца па-беларуску!»

**Летась колькасць беларускамоўных школ склала ўсяго 15% ад усіх агульнаадукацыйных школ Беларусі. Прычым на пачатку гэтага года абмяркоўвалася пытанне аб скасаванні вывучэння беларускай мовы ў ВНУ, а з жніўня бягучага года стала вядома, што гісторыю Беларусі зараз пачнуць вывучаць па-руску. 1 верасня, у Дзень ведаў, у Беларуси стартаваў маладзёжны праект "Мы будзем навучацца па-беларуску!".**

Традыцыйна ў гэтыя першыя дні вучобы маладыя людзі з розных ініцыятыў праводзяць інфармацыйную кампанію "Хочам вучыцца па-беларуску!", мэта якой прыцягненне ўвагі да праблем русіфікацыі беларускіх школ ды ўніверсітэтаў. Упершыню гэта кампанія адбылася ў Мінску першага верасня 2004 года, тады некалькі дзесяткаў маладых людзей выйшлі на кастрычніцкую плошчу беларускай сталіцы з падручнікамі роднай мовы і сімвалічна з залепленымі ртамі.

Штогадовы зварот моладзі да міністэрства адукацыі не прыносіў станоўчых вінікаў, а наадварот раздражняў рускамоўных чыноўнікаў. Таму ў гэтым годзе было прынята рашэнне змяніць галоўны лозунг кампаніі з "Хочам вучыцца па-беларуску!" на просты і лагічны "Мы будзем навучацца па-беларуску!", і, як адзначыў кіраўнік інфармацыйнай кампаніі Віталь Дабранач, "сёння наша галоўная задача не паказаць традыцыйна міністэрству адукацыі, што мы ёсць і яшчэ чакаем нешта ад іх, а пачаць піар-кампанію роднай мовы для моладзі, вынікі якой будуць падведзены 10 версня".

*Вікторыя Салей*

# У Гарадзенскай вобласці зафіксаваны смяротны выпадак атручвання грыбамі

**У Гарадзенскай вобласці зафіксаваны першы смяротны выпадак атручвання грыбамі: у рэанімацыйным аддзяленні раённай бальніцы з-за ўжывання ў ежу атрутнай бледнай паганкі памёр 72-летні жыхар г.Масты, - паведаміла БЕЛТА.**

У Гарадзенскай вобласці штогод фіксуецца каля 50 пацярпелых ад атручванняў грыбамі. У мінулым годзе абыйшлося без смяротных зыходаў. У папярэднія жа гады адзначаны рост смяротных выпадкаў: у 2002 годзе зафіксаваны 1, у 2003 - 4, у 2004 - 6. Як адзначылі спецыялісты, прычынай большасці цяжкіх атручванняў з'яўляецца бледная паганка, якую прымаюць за сыраежку. Аднак прывесці да атручвання могуць не толькі атрутныя, але і старыя, пераросльыя ядомыя грыбы, якія назапасілі атрутныя прадукты распаду. Небяспечна ўжываць у ежу грыбы, сабраныя недалёка ад аўтамабільных трас: яны могуць утрымліваць солі цяжкіх металаў, свінец, радыёактыўныя рэчывы.

*Крыніца: БЕЛТА*

## У Берасьці адмовіліся судзіць кіраўнікоў мясцовага БРСМ

**Суд Ленінскага раёну Берасьця спыніў разгляд адміністратыўнай справы ў адносінах да камандзіра абласнога штабу студэнцкіх атрадаў БРСМ.**

Фармальнай падставай для спыненьня гэтай справы было тое, што скончыўся тэрмін, цягам якога павінна быць прынятае рашэньне паводле раней складзенага адміністратыўнага пратаколу. Між тым яшчэ на мінулым тыдні ў канцыляры суду Ленінскага раёну журналістам паведамлялі, што пратакол у адносінах да аднаго з берасьцейскіх кіраўнікоў БРСМ яшчэ не трапіў у судовую ўстанову.




Адміністратыўны пратакол на адказных асобаў БРСМ склалі супрацоўнікі абласной управы Дэпартамэнту грамадзянства і міграцыі. Паводле іх высноваў, у часе адпраўкі студэнтаў у расейскі курорт Анапа кіраўнікі гэтай моладзевай арганізацыі парушылі патрабаваньні дэкрэта Аляксандра Лукашэнкі "Аб некаторых мерах у супрацьдзеяньні гандлю людзьмі". У прыватнасьці, некаторыя з маладых людзей вымушаныя былі працаваць па іншай спэцыяльнасьці, і зь імі не разьлічыліся за выкананую работу.

Зараз у абласной управе Дэпартамэнту грамадзянства і міграцыі адмаўляюцца камэнтаваць гэтую справу. Паводле неафіцыйных зьвестак, у суд Ленінскага раёну Берасьця прыйшоў ліст зь Міністэрства юстыцыі, у якім было растлумачана, што справа ў адносінах да мясцовых кіраўнікоў БРСМ мусіць застацца без разгляду.

*Крыніца: Радыё Свабода*

# Узрастаюць памеры дзіцячых дапамог

**У Беларусі са жніўня на 4,4 адсоткі павялічваюцца памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.**

з 1 жніўня па 31 кастрычніка гэтага года штомесячныя дапамогі па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту 3 гадоў складзе Br 110.240, больш 3 гадоў Br50.880. Аднаразовая дапамога ў сувязі з нараджэннем першага і другога дзіцяці дасягне Br339.200. Пры нараджэнні трэцяга і наступных дзяцей беларускія сем'і са жніўня будуць атрымліваць аднаразовую дапамогу ў памеры Br508.800. Аднаразовая дапамога жанчыне, якая стала на ўлік у дзяржаўнай арганізацыі аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці пры нараджэнні першага і другога дзіцяці, складзе Br169.600, пры нараджэнні трэцяга і наступных дзяцей Br254.400.

*Крыніца: БЕЛТА*

## МИД Беларуси отказал в аккредитации журналисту «Gazety Wyborczaj»

**Министерство иностранных дел Беларуси отказало в аккредитации журналисту польской «Gazety Wyborczaj» Вацлаву Радивиновичу. Как сообщили кореспонденту «Мастоўскай праўды» сам Вацлав Радивинович, в посольстве Беларуси в Варшаве ему заявили, что он «необъективный журналист» и поэтому не получит разрешения**

Напомним, что 19 февраля корреспондента польской «Gazety Wyborczaj» Вацлава Радивиновича вообще не впустили в Беларусь. Несмотря на наличие въездной визы, Радивиновичу было сообщено, что ему запрещен въезд в Беларусь. Журналист, который ехал в Беларусь, чтобы взять интервью у Александра Лукашенко, был вынужден вернуться в Польшу ближайшим поездом. Руководство "Gazety Wyborczej" тогда заявило, что депортация из Беларуси корреспондента ежедневника свидетельствует о политике «закручивания гаек» накануне выборов.

Вацлав Разивинович много раз бывал в Беларуси, освещал важнейшие политические и общественные события жизни страны в течение последних нескольких лет.

*Виктория Салей*

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

**20,5 працэнта школьнікаў Беларусі вучацца ў школах зь беларускай мовай навучаньня, яшчэ 12,7 працэнта дзяцей навучаецца ў школах з расейскай і беларускай мовамі навучаньня і парасейску 66,7 працэнта школьнікаў. У Менску 234 сярэднія навучальныя установы, беларускамоўных зь іх толькі чатыры гімназіі.**

**Цэнтравыбаркам прапануе адмяніць другі тур выбараў. У гэтым выпадку дэпутатам (пры ўмове дастатковай яўкі выбарцаў) становіцца пераможца першага туру незалежна ад таго, колькі галасоў ён зьбярэ. Дзейнае ж заканадаўства прадугледжвае: каб быць абраным у першым туры, кандыдату трэба мець падтрымку большай паловы выбарцаў.**

*паводле Радыё "Свабода"*

МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 9 (17) 10 верасня 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.**
дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі.